**BIELARUS**

**Byelorussian Newspaper in the Free World**
**Published monthly by**
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
**Subscription $ 10. 00 yearly.**

**„БЕЛАРУС"** — **Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.**
**Выходзіць месячна.** Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
**Выпіска зь перасылкаю** — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Р Э З А Л Ю Ц Ы Я

**ПРЫНЯТАЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ ГРАМАДОЙ 23 САКАВІКА 1980 ГОДУ НА ЎРАЧЫСТЫМ СХОДЗЕ З НАГОДЫ 62-Х УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ Ў МЕНСКУ 25 САКАВІКА 1918 ГОДУ.**

Беларуска-амэрыканская грамада ў Нью Ёрку перакананая, што ў інтарэсах нацыянальнае бясьпекі Задзіночаных Штатаў і міру ў сьвеце ляжыць, каб паняволеныя народы ў Савецкім Саюзе былі паінфармаваныя пра характар савецкага экспаньсіянізму ды пра жыцьцёвасьць іхнае культурнае спадчыны ў Задзіночаных Штатах. Гэта — важнае заданьне радыяперадачаў „Голасу Амэрыкі". На працягу гадоў аднак Беларусы ў Савецкім Саюзе ня чуюць аніякіх перадачаў „Голасу Амэрыкі" ў сваёй мове.

Беларуская мова, мова аднае з найбольшых нацыянальных групаў у СССР і аднае з найстарэйшых групаў у ЗША, дыскрымінуецца „Голасам Амэрыкі", паколькі ён ня мае перадачаў у беларускай мове.

Мы, удзельнікі гэтага ўрачыстага сходу, хочам яшчэ раз выказаць сваё даўнае незадавальненьне гэтай дыскрымінацыяй. Мы йзноў просім адміністрацыю „Голасу Амэрыкі" ды ўсе адпаведныя ўрадавыя ўстановы прызнаць несправядлівасьць і памылковасьць палітыкі „Голасу Амэрыкі" ў гэтым пытаньні ды ўлучыць беларускую мову ў праграмы радыястанцыі. Улучэньне беларускае мовы ў перадачы „Голасу Амэрыкі" падтрымае справу бліжэйшых дачыненьняў зь беларускім народам ды зь беларуска-амэрыканскай грамадой.

## АБАРОННАЯ ПРАМОВА МІХАЛА КУКАБАКІ

**АД РЭДАКЦЫІ:** Суд над беларускім іншадумцам Міхалам Кукабакам у Бабруйску адбыўся 20-21 чырвеня 1979 году. На судзе гэным Кукабаку адмовілі ў хадайніцтве, каб ягоным абаронцам была адвакат А. Куніна з Масквы або ягоны сябра Віктар Някіпелаў, які прыбыў у Бабруйск на суд. Міхал Кукабака заявіў тады, што ён будзе сам сваім абаронцам.

Ніжэй зьмешчаны ўрывак зь ягонае абароннае прамовы быў прачытаны на сьвяткаваньні ўгодкаў 25 Сакавіка ў Нью Ёрку 23 сакавіка 1980 году.

***

Грамадзянін пракурор выказаў тут цікавае цьверджаньне: „Думай, але ня дзей". Вось у залі сядзіць грамадзянін Новікаў, ён — сталяр. Як ён можа выявіць сябе, давесьці сваю кваліфікацыю? Відавочна, што ён павінен што-небудзь зрабіць: стол ці крэсла. Як-жа можна паказаць, што я думаю, выказаць сваю думку? Відавочна, што дакладна гэтак-жа — дзеяньнем.

Я цьверджу, што сьветчаньні супраць мяне схвабрыкаваныя. Вось Барысаў Алег Іванавіч. Так, ёсьць у яго слабасьць — ён лячыўся ад алькагалізму. На гэтую слабасьць і націснула КДБ. Кажуць, што ён дабраахвотна выдаў захоўваныя ў яго матарыялы. Чаму-ж ён, калі чытаў ‚Архіпэляг ГУЛаг' — (ён казаў тут) — гэтую кнігу не аддаў у КДБ, а панёс бандэроль, нат нераспакованы, ня ведаючы, што ў ім ляжыць. Мой аналіз: працаўнікі КДБ узялі дый націснулі на яго: нэ дасі сьветчаньняў — зноў запраторым цябе ў лячыльна-працоўны прафілякторы. І ён даў. Зразумела, я не асуджаю Барысава сурова, відаць у кажнага ёсьць свая мяжа вытрываласьці.

Вось Новікаў Сяргей. Гэта вельмі добры чалавек, я мог-бы ўважаць яго за брата. Ён, калі я выйшаў у лістападзе 1977 году з псыхбольніцы ды апынуўся бязь месца ў інтэрнаце, бяз рэчаў, даў мне сваё паліто!.. Я думаю, як-жа магла здарыцца гэтак званая дабраахвотная выдача? Ды гэтак-жа, як і ў Барысава — ня было яе. Я памятаю, як прыйшоў да яго, а ён сядзіць, трымае галаву ў руках: Ой, Міхась, усё прапала, усё! — Ды што прапала? Узялі, ці што? — Так. І я ня мог нічога зрабіць . . . — Ну, вось, кажу, вось табе аркуш паперы, сядай — апішы, як усё было. — Ой, Міхась, — кажа, — я не магу. Гэта-ж значыць, мне трэба йсьці ў турму.

Так, я не ўважаю сябе за вінаватага. І катэгарычна пярэчу супраць выстаўленых мне абвінавачаньняў. Мае перакананьні, мае артыкулы — вынік жыцьцёвага дазнаньня й глыбокіх роздумаў над тым, што адбываецца ў краіне. Яшчэ ў 1970 годзе я быў паддадзены рэпрэсіям за свае перакананьні ды правёў у зьняволеньні сем гадоў. За адмову ад супрацоўніцтва з КДБ я быў прызнаны за ненармальнага ды пасаджаны ў спэцпсыхбольніцу. Так, гэта было ў Уладзіміры, старэйшы сьледчы Ўладзімірскага КДБ маёр Яўсееў запрапанаваў мне даць сьветчаньні аб крымінальных сустрэчах із штатссакратаром пасольства Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі Мюлерам. За гэта ён абяцаў мне свабоду. Але гэта значыла схлусіць. Я падумаў: навошта? Дастану свае тры гады, як-небудзь перакідаюся, але не загублю душы, не заплямлю сумленьня. Я адмовіўся. Тады маёр Яўсееў і ськіраваў мяне на экспэртызу ў інстытут Сербскага. Дзяржава выявілася хітрэйшай! Мяне прызналі за ненармальнага, суд быў зачынены . . .

Разуменьне сваіх учынкаў — гэта й ёсьць перакананасьць. Мае перакананьні выпакутаваныя й цьвярдыя. І вы самі разумееце, што чалавек, які ўсё сваё жыцьцё праводзіць у турмах за перакананьні, ня можа быць злачынцам.

Хачу зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што суд нада мною супярэчыць Усеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека.

Хачу зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што йшчэ 16 красавіка 1977 году я прыняў цяжкую пастанову — выехаць із СССР. Я даўно прыйшоў да перакананьня, што камунізм савецкага ўзору становіць сыстэму прымусу й агульнага разбурэньня. Усе камуністычныя правадыры, пачынаючы ад Уладзімера Ульлянава, праводзяць палітыку ўмешваньня ў справы іншых краінаў з мэтай накінуць ім дыктатуру, падобную да свае.

Маскоўскія кіраўнікі могуць ня супыняцца й перад разгортаньнем новае вайны. Пра сталае рыхтаваньне да вайны кажа мілітарызацыя краіны, узгадоўваньне жыхарства ў ваенна-патрыятычным духу, усеагульны вайсковы абавязак, розныя дзіцячыя гульні ды да гэтага падобнае. Пры гэтым улада імкнецца зьнішчыць найменшую апазыцыю да ейных плянаў унутры краіны.

Што да падпісанае гэтымі днямі ўмовы СОЛТ із Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі, дык уважаю, што савецкі ўрад ніколі ня будзе трымацца гэтае ўмовы. Кантроль над абмежаваньнем зброі магчымы толькі шляхам спраўджваньня другім бокам на месцах. Гэта значыцца, нашыя спэцыялістыя паедуць у Амэрыку, а амэрыканскія — да нас: калі ласка, глядзеце.

Якая-ж можа быць умова, калі камень за ўлоньнем трымаць? Вось, скажам, некага вінавацяць, што ў яго крадзеныя рэчы ў валізцы; што гэты чалавек зробіць, калі ў яго нічога няма? Ён адчыніць валізку ды скажа: глядзеце! А наш урад якраз гэтага й ня хоча, ніяк ня хоча паказаць сваю валізку.

Я за распружаньне, за абмежаньне зброі — усіх відаў зброі з абодвых бакоў. Мае бацькі загінулі ў мінулай вайне, мне, як нікому, патрэбнае распружаньне.

У выніку парваньня з камуністычнай ідэялёгіяй я прыйшоў да пастановы пакінуць СССР. Я ўважаю, што нат пражываньне ў гэтым краі — амаральнае. Бо, што я ні рабіў-бы, я — суўдзельнік ягонае палітыкі, ягонае мілітарызацыі, бо кажны рубель, які я зараблю сваёй працай, ідзе на гэтую мілітарызацыю, якую я адкідаю.

**Міхал Кукабака**



# Х А Б А Р Н І Ц Т В А

## АБО ЯК ЗА БУЛЬБУ НАЧАЛЬНІКАМ КУПЛЯЛІСЯ КУКУРУЗАСЕЯЛКІ

Хабарніцтва трывала ўвайшло ў штадзённае жыцьцё савецкага грамадзтва. Савецкія людзі даўно ўжо зразумелі, што даючы адпаведны хабар, куды лягчэй разьвязаць свае асабістыя праблемы, як пры дапамозе бюракратычных дзяржаўных інстытуцыяў. Побач з гэтым хабарніцтва шырака ўжываецца і ў дзейнасьці савецкіх сацыялістычных прадпрыёмстваў.

Разглядзім цяпер гэтае пытаньне падрабязьней. Кіраўнік якога-хаця савецкага вытворчага прадпрыёмства павінен дзеіць, як вызначае закон, паводля інструкцыяў вышэйстаячых гаспадарскіх органаў. Гэтых інструкцыяў вельмі шмат і яны складаюць гэтак званае гаспадарскае заканадаўства.

У 1974 годзе праўнікі аднаго зь вялікіх прадпрыёмстваў Беларусі зрабілі спробу падлічыць колькасьць дзейных гаспадарскіх інструкцыяў, але перайшоўшы лік дзесяць тысячаў, гэтую спробу спынілі.

У васноўным гэтыя інструкцыі прадугледжваюць, чаго ня мае права рабіць кіраўнік вытворчага прадпрыёмства, ды ськіраваныя на ўсялякія абмежаваньні самастойнасьці кіраўнікоў у разьвязваньні гаспадарскіх пытаньняў. Былы кіраўнік Менскага Трактарнага заводу, які пасьля стаў Міністрам СССР, казаў, што каб ён дзеіў у вадпаведнасьці зь дзейнымі інструкцыямі, дык завод ня меў-бы магчымасьці выпушчаць трактараў ды быў-бы безадкладна зачынены. Аб гэтым-жа казалі й кажуць цяпер шмат якія кіраўнікі прамысловых прадпрыёмстваў. З аднаго боку, партыйнае й дзяржаўнае кіраўніцтва катэгарычна патрабуе ад кіраўнікоў прамысловых прадпрыёмстваў бязумоўнага выкананьня дадзеных вытворчых плянаў, а з другога боку, сыстэма цэнтралізаванага плянаваньня й разьмеркаваньня матарыялаў і абсталяваньня стварыла ўмовы, пры якіх выконваць вытворчыя пляны надзвычайна цяжка. Добра ведаючы, што за нявыкананьне пляну вытворчасьці ён можа страціць сваю пасаду, кіраўнік прадпрыёмства ідзе на ўсялякія парушэньні інструкцыяў, фінансавых законаў, аж да злачынных дзеяньняў з мэтаю забясьпечаньня выкананьня гэтых плянаў.

Ува ўсіх бяз вынятку прамысловых прадпрыёмствах ёсьць гэтак званыя „штурхачы", якія рознымі нелегальнымі шляхамі дапамагаюць прадпрыёмству здабыць патрэбныя матарыялы, сыравіну, дэталі, абсталяваньне ды падобнае. У сваёй дзейнасьці на карысьць вытворчасьці штурхачы шырока ўжываюць хабарніцтва, як найбольш эфэктыўны мэтад узьдзеяньня на савецкіх урадаўцаў.

Вазьмем дзеля прыкладу, адно з найбольшых прадпрыёмстваў СССР, Менскі Трактарны завод, які выпушчае колавы трактар „Беларусь". Каб выпушчаць гэткія трактары, завод, апрача матарыялаў, павінен дастаць гатовыя дэталі для трактару ад больш як 800 прадпрыёмстваў, разьмешчаных па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюзу. З усімі гэтымі прадпрыёмствамі трактарны завод мае адпаведныя ўмовы на пастачаньне дэталяў. Паколькі аднак усе гэтыя прадпрыёмствы, сваім парадкам адчуваюць ладныя цяжкасьці ў выкананьні плянаў, дэталі трактарнаму заводу пастачаюцца вельмі блага й несваячасна. Калі-ж няма хоць-якое дэталі — хай гэта будзе звычайная гумовая пракладка або фільтар — завод ня можа выпушчаць трактараў. Вырабіць у сябе гэтую дэталь волат трактарабудаваньня ня мае права — яму гэта ня ўведзена ў плян. Можна ўявіць сабе стан кіраўніка заводу, калі да канца месяцу або кварталу застаецца ўсяго колькі дзён, а для выпуску трактароў не стае колькіх простых дэталяў.

У гэткіх выпадках, а яны здараюцца бадай штамесяцу, на заводы, што ня прыслалі адпаведных дэталяў, тэрмінова кіруюцца штурхачы, забавязаныя якімі-хаця спосабамі праштурхнуць патрэбныя дэталі зь якога хаця канца Савецкага Саюзу на свой Менскі Трактарны завод. Штурхачы Менскага Трактарнага заводу маюць вялікую практыку ў гэткіх справах, і яны выпрацавалі цэлы шэраг спробаў узьдзеяньня на прадпрыёмствы-пастачальнікі. Адзін з найбольш дзейных спосабаў — гэта хабар.

Разгортаючы чародны нумар якое-хаця газэты, савецкія людзі чытаюць процьму рапартаў прамысловых прадпрыёмстваў аб выкананьні вытворчых плянаў, але вельмі мала хто ведае, якім коштам здабываецца гэтае выкананьне, якога перапружаньня яно каштавала дзесяткам і сотням людзей.

А вось яшчэ адзін характэрны прыклад: на пачатку 60-х гадоў Мікіта Хрушчоў, пабыўшы ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі й Канадзе, аддаў загад па ўсім Савецкім Саюзе сеяць кукурузу. На Беларусі загад устанавіў засяваць гэтаю культураю 13% усіх засеўных плошчаў. Адразу-ж войстра паўстала пытаньне забясьпечаньня гаспадарак кукурузнымі сеялкамі. Гэтыя сеялкі вырабляла толькі адно прадпрыёмства на ўвесь Савецкі Саюз — завод „Чырвоная Зьвязда" у Кіраваградзе на Ўкраіне. На гэты завод былі тэрмінова ськіраваныя найбольш спрактыкаваныя штурхачы з заданьнем за ўсялякую цану праштурхнуць кукурузныя сеялкі зь Кіраваграду на Беларусь. Прыехаўшы ў Кіраваград, беларускія штурхачы выявілі, што туды ўжо прыбыло больш за 100 штурхачоў з усяго Савецкага Саюзу з гэткімі-ж заданьнямі сваіх мясцовых партыйных органаў. Завод „Чырвоная Зьвязда" быў літаральна атакаваны штурхачамі „братніх" нацыянальных рэспублікаў. Кіраўнік заводу выставіў дадатковую ахову, каб не дапушчаць штурхачоў на тэрыторыю прадпрыёмства.

Беларускія штурхачы знайшлі аднак свой арыгінальны шлях для разьвязваньня гэтага складанага пытаньня. Выявіўшы, што горад Кіраваград адчуваў у тым часе войструю патрэбу ў бульбе (яе ня было ў продажы ні ў магазынах, ні на рынку), яны паведамілі аб гэтым свайму кіраўніцтву. У сьпешным парадку зь Беларусі было выслана ў Кіраваград 20 тонаў бульбы. Уначы гэтая бульба была разьвезеная па кватэрах адпаведных работнікаў заводу „Чырвоная Зьвязда" у якасьці падарункаў. За колькі дзён кукурузныя сеялкі пайшлі на Беларусь без усякае чаргі. Гэтак беларуская бульба дапамагла кіраўніцтву рэспублікі рэпартаваць партыі й ураду аб выкананьні пасеву кукурузы. Зразумела, што беларускія штурхачы за выкананьне заданьня былі адзначаныя грашовымі прэміямі. Гэтак дзеіць хабар у інтарэсах вытворчасьці.

**Аркадзь Насовіч**

## УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Беларусы Кліўленду ўрачыста адзначылі 23 сакавіка сёлета дзень незалежнасьці Беларусі, які быў зарганізаваны мясцовым Аддзелам БАЗА. Сябра Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў Юрка Гасьцееў прадставіў Мітрапаліта Андрэя, які адчыніў урачыстую акадэмію малітвай. Перад гэтым а. Максім з Дэтройту й а. пратадыякан Міхась адслужылі ў царкве адмысловы Малебен. Сябры Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў урачыста ўнесьлі ў царкву беларускі й амэрыканскі сьцягі. Пасьля Малебену сп. Ю. Гасьцееў у ўступным сваім слове адзначыў гісторыю й важнасьць Акту 25 Сакавіка ды прадставіў адмыслова прыбылага зь Нью Джэрзі дзеля дакладу д-ра В. Кіпеля.

Дакладчык прааналізаваў беларускі нацыянальны рух да 25 Сакавіка й пасьля яго ды падрабязна затрымаўся на сяньняшнім дысыдэнцкім руху на Беларусі. У далейшым выступіў з прамовай д-р Язэп Сажыч з Дэтройту, які абагульніў значаньне Акту 25 Сакавіка й азначыў ягонае месца ў беларускім нацыянальным змаганьні.

Гучнымі воплескамі была спатканая Праклямацыя Дня Незалежнасьці Беларусі, абвешчаная цяперашнім Бурмістрам Кліўленду Жоржам Вайновічам. Прысутны на сьвяткаваньні ягоны прадстаўнік Вацлаў Гывнэр падчыркнуў, што ў дзень 25 сакавіка сёлета ў вадзначэньне беларускай незалежнасьці па загаду Бурмістра над Гарадзкой Управай горда разьвіваўся беларускі бел-чырвона-белы сьцяг, але, на жаль, не павявае ён над Менскам або Віцебскам.

Сп. Янка Раковіч прачытаў тэлеграму ад кандыдата на Прэзыдэнта ЗША ад Рэспубліканскай партыі Рональда Рэгена. У сваёй тэлеграме Рональд Рэген сказаў, што Дзень Незалежнасьці Беларусі ёсьць сымбалем гістарычнага права беларускага народу да свабоды ды што Амэрыка не павінна забывацца пра тое, што ейная собская свабода змушае рознымі спосабамі камунікацыі напамінаць беларускаму народу аб тым, што мы не забываем яго.

Далей сп. Я. Раковіч прачытаў Праклямацыю Губэрнатара штату Огаё Джэмса Родзя, выдатнага палітычнага дзеяча Кліўленду й шчырага прыяцеля беларускага народу, які, як зазначыў ён сам, ужо дванаццаты раз адзначае зь Беларусамі дзень іхнай незалежнасьці. Ён войстра асудзіў замежную палітыку амэрыканскага ўраду ў дачыненьні да паняволеных Масквой народаў, у тым ліку й палітыку да народу беларускага.

У далейшым сп. Ю. Гасьцееў прачытаў ведамы патрыятычны верш Янкі Купалы „Над Нёманам". Напошку была аднагалосна прынятая рэзалюцыя, у якой беларуская калёнія ў Кліўленьдзе дамагаецца ўвядзеньня беларускае мовы ў праграмах радыя „Голасу Амэрыкі". Акадэмія закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

А пасьля акадэміі на пашыраным паседжаньні ўправы БАЗА была прадыскутаваная справа 14-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, якая адбудзецца ў наступным годзе ў верасьні ў Кліўленьдзе.

**П. П.**

## ТРЫЦЦАЦЬ ГОД БЕЛАРУСКІХ ПЕРАДАЧАЎ У ВАТЫКАНСКІМ РАДЫІ

На працягу цэлых 30-ёх год беларускія рэлігійныя праграмы былі перадаваныя праз Ватыканскае Радыя ў Рыме. Яны добра чуваць на Беларусі, перадусім там, куды яны накіраваныя ў сьвеце, спэцыяльна ў Эўропе. Для Беларусаў на Бацькаўшчыне яны становяць вялікую рэлігійную пацеху ў іхнай роднай мове. У гэтым іхнае вялікае значаньне.

Заснавальнікам і першым Дырэктарам беларускіх праграмаў да часу пераходу на пэнсію ў 1971 годзе быў пазьнейшы Пралат Пётра Татарыновіч, які памёр у 1978 годзе.

На ягонае месца быў назначаны ў 1971 годзе Архімандрыт Леў Гарошка, які далей пашырыў час і зьмест праграмаў, прысьвячаючы гэтай справе ўсю сваю энэргію й здольнасьці аж да свае сьмерці ў 1977 годзе.

Цяперашнім Дырэктарам беларускіх радыяперадачаў зьяўляецца а. Робэрт Тамушанскі, а ягоным заступнікам працуе а. Кастанцін Маскалік.

# ПАМЁР ПЯТРУСЬ БРОЎКА



24 сакавіка сёлета пасьля цяжкай і працяглай хваробы памёр на 75-ым годзе жыцьця ў Менску ведамы беларускі савецкі паэта, грамадзкі, культурны й навуковы дзеяч Пятрусь Броўка, які зь вялікай пашанай быў пахаваны 26 сакавіка ў тым-жа Менску.

Пасьля сьмерці Якуба Коласа ў 1956 годзе ня было яшчэ выпадку гэткага ўслаўленьня й выняткавай пашаны беларускага савецкага пісьменьніка з выпадку ягонае сьмерці, якімі шчодра ўдастоіўся з боку Камуністычнай партыі Пятрусь Броўка. І гэта выявілася ўжо ў самой форме ягоных пахаронаў.

Апрача афіцыйнага паведамленьня ў друку аб ягонай сьмерці Цэнтральнага Камітэту КПБ, Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР і Савету Міністраў БССР, гэткае-ж афіцыйнае паведамленьне зьмясьціў і Цэнтральны Камітэт КПСС, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету і Савет Міністраў СССР. Калі ў 1975 годзе памёр, здавалася-б таксама моцна заслужаны для партыі беларускі савецкі пісьменьнік, грамадзкі й палітычны дзеяч Міхась Лынькоў, дык былі зьмешчаныя ў друку адно рэспубліканскія афіцыйныя паведамленьні пра ягоную сьмерць, на першым месцы пад якімі быў падпісаны першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў. Затое пад афіцыйнымі паведамленьнямі пра сьмерць Пятруся Броўкі подпіс Пётры Машэрава фігуруе аж на пятым месцы пасьля подпісаў саюзных кіраўнікоў партыі й ураду.

Узноў-жа ніводзін зь беларускіх савецкіх пісьменьнікаў, грамадзкіх і палітычных дзеячоў ня меў гэткіх высокіх адзначэньняў і ўзнагародаў, колькі іх меў Пятрусь Броўка. Навет згаданы Міхась Лынькоў і даўгагадовы старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Максім Танк ня меў іх гэтулькі, колькі даслужыўся Пятрусь Броўка, што сьветчыць пра ягоныя выняткавыя заслугі для партыі. Быў ён узнагароджаны 4-ма ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Дружбы Народаў, Чырвонай Зоркі, „Знак Пашаны" й многімі мэдалямі. Спасярод многіх ягоных адзначэньняў найважнейшымі былі наступныя: Герой Сацыялістычнай Працы, Народны паэта БССР, двойчы ляўрэат Дзяржаўнай Прэміі СССР і ляўрэат Дзяржаўнай Літаратурнай Прэміі БССР імя Якуба Коласа.

Не дарма-ж сярод беларускіх літаратараў у Вольным Сьвеце быў Пятрусь называны партыйным палітруком у беларускай літаратуры. І гэткім быў ён даўжэйшы час узапраўды, але ў пасьлясталінскім пэрыядзе ягонай творчасьці мянушка гэтая, як пабачым пазьней, незаўсёды была-б правільная.

Пятрусь Броўка нарадзіўся 25 чырвеня 1905 году ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёну Віцебскай вобласьці у беднай сялянскай сям'і. Із самых маладых год быў ён актыўным камсамольскім кіраўніком, а ў пазьнейшым веку сябрам Камуністычнае партыі. Даўгі час (1945-1948 гг.) быў галоўным рэдактарам часапісу „Полымя", а з 1948 году старшынём праўленьня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі аж да 1967 году, калі быў назначаны галоўным рэдактарам Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі. Апрача гэтага, ён часта выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савету СССР і БССР.

Да бясспрэчных ягоных заслугаў трэба залічыць рэдагаваньне ім Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, у першых тамох якое намагаўся асьвятляць некаторыя тэмы зь беларускіх нацыянальных пазыцыяў, незаўсёды сугучных з палітыкай партыі. Ён сьведама прабаваў выламацца спад русыфікаваньня беларускае мовы ў тэксьце гэтай Энцыкляпэдыі, але гэтыя ягоныя намаганьні хутка былі партыяй спынены.

На літаратурнай ніве выступіў Пятрусь Броўка ў 1926 годзе. Пасьля гэтага ён выдаў каля трох дзесяткоў кніжак сваіх літаратурных твораў. Быў ён адным з найвыдатнейшых, калі не найвыдатнейшым наагул савецкім пісьменьнікам, які ў гадох гэтак званага культу асобы Сталіна й навет у часе крывавае яжоўшчыны 1936-38 гадоў, поўнасьцяй уцалеў ня толькі ад чыстак, але й ад крытычных нападаў. А чысткі гэтыя, як ведама, сталіся ўдзелам ня толькі найвыдатнейшых узвышэнскіх паэтаў і пісьменьнікаў, як Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча, а таксама Міхась Зарэцкі, ня кажучы ўжо пра Міхася Чарота ці Платона Галавача, што не зважаючы на свой шчыры савецкі патрыятызм, былі расстрэленыя напрыканцы яжоўшчыны, а ведамы ўзвышэнскі пісьменьнік Кузьма Чорны, быўшы арыштаваным таксама, уцалеў толькі дзякуючы таму, што гэта быў ужо канец крывавае яжоўшчыны.

Той факт, што сталінскія чысткі анічуць не закранулі моцна актыўнага тады Пятруся Броўкі, добра сьветчыць аб тым, што ён быў конча патрэбным для партыйнае палітыкі часоў яжоўшчыны, як энтузіястычны ейны прапагатар.

Калі ў часе мінулае вайны значна злагодзіўся сталінскі палітычны курс, а крывавая яжоўшчына адно напамінала кашмар нядаўнае мінуўшчыны, Пятрусь Броўка шырака выкарыстаў гэтыя новыя магчымасьці. Побач з узвышанымі гімнамі камунізму й савецкаму патрыятызму, прапетымі не за страх, а за сумленьне, у Броўкавай творчасьці прагучэлі поўным голасам і матывы беларускага нацыянальнага патрыятызму. Для сваёй лірычнай паэмы 1943 году „Беларусь" ня выпадкова ўзяў паэта эпіграфам пачатковыя словы „Новае зямлі" Якуба Коласа: „Мой родны кут, як ты мне мілы" й гэтаму „роднаму куту" прысьвяціў сваю бязьмежную любасьць. У паэме „Беларусь" аўтар даў глыбокае ідэйнае асэнсаваньне ўсяе гісторыі беларускага народу, усюды моцна акцэнтуючы элемэнт нацыянальнага патрыятызму. Вось колькі ўрыўкаў з паэмы на пацьверджаньне гэтага:

Зямля Беларусі! Бары і дубровы,
Жытнёвае поле, шаўковы мурог,
У промнях рабіны заход вечаровы,
Што клёкат буслоў — ручаёў перамовы
І ў шумных прысадах істужкі дарог.
. . . . . . . . . . . .
Бацькоў нашых слава на іх узьбярожжах,
Гамоняць пра гэта бары-байкары,
Гамоняць пра гэта і Полацка вежы,
І роднага Мінска сівыя муры.

Або, таксама ў якасьці прыкладу, глыбака патрыятычная вымова наступных радкоў паэмы „Беларусь":

Яшчэ ў дні старыя, у век наш лучынны,
Аб горадзе Полацку слава ішла, —
Друкар там выдатны Георгій Скарына,
Што зоры, рассыпаў па роднай краіне
Крыштальныя словы навукі-сьвятла;

Нямала народаў з крыніц яго піла
І брала ад мудрасьці вечны агонь,
У літарах першых знаходзячы сілу...
Ты слаўна, зямля, што вякам нарадзіла
Такога выдатнага сына свайго!

І вось, узнаўляючы вобразы слаўнае мінуўшчыны беларускага народу, паэта стараецца падчыркнуць ідэйнае адзінства Беларусі з Украінай і Расіяй, „старэйшай сястрой", як называе ён Расію. Робіць ён гэта бязь ніякай патрэбы, а гэта паказвае, што робіць ён гэта шчыра згодна із сваім глыбокім перакананьнем. Броўка піша:

Мы ў годы узьлётаў і боек суровых
З Расіяй, Украінай разам былі.
Адзінага дрэва ў нас гучныя словы,
Як говар Дзьвіны і гамонкі Дняпровы,
Яны нас ядналі на нашай зямлі.
. . . . . . . . . . . .
Ты кроўная зь імі і лёсам і родам,
Адною асьветлена ўсходняй зарой.
Ні Немцам-магнатам, ні шляхцічам гордым
Цябе разлучыць не ўдалося. Заўсёды
Была ты з Расіяй, старэйшай сястрой.

І ўзноў, у якасьці прыкладу, прывядзём натхненны гімн паэты, прапеты ім у паэме „Беларусь" для ўслаўленьня роднага краю ягонай нацыянальнай мінуўшчыны, што быццам мела вялікія гістарычныя дасягненьні дзякуючы гэнаму адзінству з Расіяй, „старэйшай сястрой":

Зямля Беларусі, зялёныя долы!
З крыніц тваіх чыстых пад шумнай вярбой
Зачэрпнулі думы Купала і Колас,
На кожнай сьцяжынцы іх песьня і голас
З тваёю журбою і ўцехай тваёй.

Пад гоманы бору, куваньне зязюлі
Злажыў Багдановіч тут яркі вянок...
І поле, і пушча, і рэкі тут чулі,
Як Цётка сьпявала, як марыў Бядуля,
Як сьлёзы рассыпаў Мацей Бурачок.

Далейшым узмужненьнем патрыятычных акордаў пад узьдзеяньнем пачуцьцёвага адзінства з гэнай „старэйшай сястрой"-Расіяй — паваенныя вершы Пятруся Броўкі. Сярод іх асаблівую вымову мае верш 1949 году „Расія". Пачынаецца ён гэткімі радкамі:

Дзе слова мне знайсьці такое,
Каб прывітаць ад глыбіні —
Расія — сэрца агнявое,
Прастор нябачнай шырыні.

Расія — волатава сіла,
Пагляд крыштальнага сьвятла —
Усіх зьяднала, прытуліла,
З сабой ў дарогу павяла.

Гэткія нізкапаклоньніцкія гімны Расіі пішуцца ў Савецкім Саюзе або із шчырага перакананьня, але такіх, што пішуць гэта із шчырага перакананьня, адно лічаныя адзінкі сярод Беларусаў, і да іх, на жаль, залічыў сябе Пятрусь Броўка. Гэтая акалічнасьць ня можа не насьцярожыць і ня зьвінавачваць Пятруся Броўкі ў нацыянальным адступніцтве ўсіх тых Беларусаў на бацькаўшчыне й у замежжы, што жадаюць застацца самымі сабой бяз русыфікатарскай апекі „старэйшай сястры".

Ад 1948 й да 1967 году займаў Пятрусь Броўка становішча старшыні Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, калі, у сувязі з назначэньнем ягоным галоўным рэдактарам Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, пісьменьніцкую арганізацыю ачоліў Максім Танк. І вось, будучы старшынём Саюзу, Пятрусь Броўка, сьвядома ці несьвядома, зрабіў для беларускай літаратуры вялізарную прыслугу. У сваім дакладзе на 4-ым пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі 30-31 студзеня 1962 году на тэму „XXII зьезд КПСС і задачы беларускай савецкай літаратуры" Пятрусь Броўка, між іншым, асьветчыў:

„Культ Сталіна тармазіў, скоўваў, абмяжоўваў думку мастака й, ведамая рэч, зьбядняў творы мастацтва. Агульнавядомы й тыя цяжкія страты, якія панесьлі ад культу савецкая літаратура й мастацтва. Нямала страціла й наша беларуская літаратура. У часе ўздыму беларускай савецкай мастацкай літаратуры, у часе яе надзвычайнага росту, культ асобы суровымі й жорсткімі рукамі абламаў і зьнявечыў галіны яе цьвітучага дрэва й многім актыўным працаўнікам літаратуры й мастацтва нізавошта давялося адпакутаваць у жахлівых умовах многія гады, а шмат каму разлучыцца й з жыцьцём... Усе мы аддалі поўную даніну культу. Навет мудрыя й непахісныя людзі, як нашы настаўнікі Янка Купала й Якуб Колас, шмат у сваіх творах ушаноўвалі культ асобы. Добра, што Якуб Колас пры жыцьці здолеў многія свае лепшыя творы ачысьціць ад гэнага наносу, а вось Купала прарабіць такую працу ўжо ня мог. На вялікай частцы яго твораў савецкага часу й ляжыць гэны непатрэбны прывесак. І цяпер трэба думаць, што рабіць. Мне здаецца, што з тых твораў, у канцы якіх словы „вялікі Сталін" былі проста прычэплены, як віза для друку, словы гэтыя неабходна зьняць, бо самі творы добрыя й высакамастацкія, і ніякага дачыненьня да культу, апрача поўнага прывеску ,ня мелі. Можа мне скажуць, што гэта ня зусім навукова, але гэта правільна. Бо мы ўсе добра ведаем, як ставіўся да культу Янка Купала, і зусім перакананы ў тым, што калі-б ён жыў, ён з радасьцю зрабіў-бы гэта сам сёньня".

Колькі год пазьней і сяньня Пятрусь Броўка сказаць гэтага ўжо ня мог-бы, перш-наперш з тае простае прычыны, што яму гэтага не надрукавалі-б. Прыведзенае сьцверджаньне Пятруся Броўкі, тагачаснага старшыні Саюзу пісьменьнікаў Беларусі й сярод пісьменьнікаў найбольш даверанага партыі ў пытаньнях беларускай літаратуры, мае моц важнага афіцыйнага дакумэнту ў дачыненьні да беларускай літаратуры й ейных прадстаўнікоў, першнаперш і галоўна ў дачыненьні да Янкі Купалы.

Прызнаючы Пятрусю Броўку поўную слушнасьць, што ўслаўленьне Сталіна ў Купалавых вершах было няшчырае й вымушанае палітычнымі абставінамі, ды таксама прызнаючы бясспрэчныя ягоныя заслугі перад памяцяй Янкі Купалы й усёй беларускай літаратурай, што гэтую Купалаву няшчырасьць і вымушанасьць аўтарытэтна пацьвердзіў, неабходна адзначыць і асабліва моцна падчыркнуць і тое, што некаторыя Купалавы вершы ў гонар Сталіна гучаць выразнай, навет ня вельмі прыхаванай гіроніяй пад адрысам таго-ж Сталіна. І, як гэткія, можна ўважаць іх за вершы антысталінскія.

Пераконлівае сьцьверджаньне Пятруся Броўкі, што словы „вялікі Сталін" былі ў Купалавых вершах адно „непатрэбным прывескам" і „візай для друку", як і пацьверджаньне таго, што наагул усе вершы ў гонар Сталіна, у тым ліку й вершы самога Броўкі, былі няшчырай вымушанай данінай гэтак званаму культу асобы Сталіна, лягічна вядзе па простай лініі да яшчэ аднаго, у дадзеным выпадку найважнейшага сьцьверджаньня. Пайменна да таго, што й усе ўслаўленьні камунізму, усе хваласьпевы Камуністыч-

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

# НА ЎГОДКІ МАРЫЯНА ПЯЦЮКЕВІЧА

Выдаваная ў Беластоку беларуская тыднёвая газэта „Ніва" ў сваім нумары за 18 лістапада 1979 году надрукавала наступнае:

### МАР'ЯНУ ПЕЦЮКЕВІЧУ

Прыйшоў ліст зь Мінска. Аўтар, між іншым, піша: „Пасылаю Вам мой верш „Удзячнасьць", які прысьвячаю роднаму дзядзьку Мар'яну Пецюкевічу — беларускаму этнографу ў г. Торуні, дзе я быў нядаўна (у верасьні гэтага году) на сямейнай урачыстасьці — 75-годзьдзі з дня нараджэньня дзядзькі. Было-б вельмі прыемна яму й мне ўбачыць гэты верш на старонках вашай „Нівы", якую, дзякуючы дзядзьку, я атрымліваю ўжо амаль чатыры гады й ахвотна яе чытаю".

**Ад рэдакцыі:** зь вялікай прыемнасьцю зьмяшчаем верш, прысьвечаны заслужанаму для Б(еларускага) Г(рамадзка) К(ультурнага) Т(аварыства) этнографу й дзеячу. Адначасна жадаем юбіляру добрага здароўя й творчага настрою (каб пісаў у „Ніву").

### УДЗЯЧНАСЬЦЬ

**Дзядзьку Мар'яну**

Пяць год прайшло, а колькі сноў,
І ўсе яны вясеньнія,
А колькі важных каласкоў
Зь зярнят, табой пасееных.

А колькі радасьці, калі
З адзнакай „Міжнароднае"
Твой прыйдзе ліст, у ім, як гімн,
Сьпяваюць словы родныя.

У іх бацькоўскі неспакой,
Трывога, заклапочанасьць,
Каб сьцежка, выбраная мной,
З прамых шляхоў ня збочыла.

Каб вышыня маіх нябёс
Была як найвышэйшая,
Ў абозе Бацькаўшчыны воз
Каб мой быў не зь лягчэйшых.

Каб памяць бацькі для мяне
Была сьвяцей сьвяцейшага,
Вянок на Брацкім кургане,
Каб мой быў найярчэйшы.

Каб знаў граматыку жыцьця
Да самай коскі, кропачкі,
Аддаў разьлівы пачуцьця
Зямлі бацькоў да кропелькі.

Каб словам маці даражыў,
Як хлебнаю скарынкаю,
Яго увагай акружыў
І клопатам скарынавым...

Пяць год ня ведаю зімы,
Пад сонцам весьнім грэюся,
Як пакляліся ў дружбе мы,
Ля родных хат сустрэўшыся.

**Уладзімер Пецюкевіч**

Як могуць пераканацца чытачы „Беларуса", прыведзены верш на высокім мастацкім узроўні й, галоўнае, глыбокай патрыятычнай скіраванасьці. Верш гэты, з увагі на свой беларускі патрыятычны зьмест, у ніякім выпадку ня мог-бы быць надрукаваным у БССР. Затое быў ён надрукаваны ў Польшчы, дзе палітычныя абставіны ўсё-ж лагаднейшыя. У васобе Уладзімера Пецюкевіча, пляменьніка Мар'яна, выступае паэта высокай мастацкай якасьці. Таму й застаецца пажадаць яму як найбольш друкавацца ў беластоцкай „Ніве".

Мар'ян Пецюкевіч у часе мінулай вайны й пасьля яе быў савецкімі ўладамі перасьледваны за сваю шчырую беларускасьць, арыштоўваны й высыланы ў Краснаярскі край і на Варкуту. Пазьней, будучы звольненым спад арышту, працаваў у Этнаграфічным Музэі ў Торуні (Польшча), а ў лістападзе 1970 году выйшаў на эмэрытуру, застаўшыся ў Торуні на сталае жыхарства. Надрукаваў ён колькі навуковых працаў з галіны беларускае этнаграфіі.

З нагоды ягонага юбілею газэта „Беларус" далучаецца да беластоцкай „Нівы" й ад усяго сэрца жадае Мар'яну Пецюкевічу ўсяго найлепшага ў ягоным далейшым жыцьці й навуковай дзейнасьці ў беларусаведнай галіне.

